

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 11 (448) 15 САКАВІКА 2000 г.

## *А без таго слова я – нямы калека!*

*Францішак Багушэвіч.*

*Ой, цяжка ж, цяжка,*
*Не сярмяжка цяжка,*
*Але з гэтай доляй,*
*А ўсё штораз болей!*

Ох, цяжкая ж доля! От так бы, здаецца,
Скрозь землю прапаў бы б ці ў слёзы б разліўся!
Ці мне жыць на свеце, ці мне куды дзецца?
Ой, Божа ж мой, Божа, нашто ж я радзіўся?!
Ой, нашто ж мне дана тая мая мова,
Як я не умею сказаць тое слова,
Каб яго пачулі, каб яго пазналі,
Каб яго, то слова, ды праўдай назвалі;
Каб і разышлося то слова па свеце,
Як праменні сонца цёплага ў леце;
Каб на тое слова ды людцы зрадзелі
Так, як тыя дзеткі на святой нядзелі;
Каб жа тое слова ды людцоў з'яднала,
Каб на тое слова варагоў не стала;
Каб людцы прызналі братоў ды братамі –
Дзяліліся б доляй і хлеба шматамі.
А без таго слова я – нямы калека!
Хоць бы занямець мне і да канца века!
Ой, нашто ж мне вочкі, ой, нашто ж мне ясны?
Каб глядзеў, які я ад усіх няшчасны?
Каб душа балела гледзячы на долю,
Каб сэрца шчымела і рвалася з болю?
Каб было чым плакаць і ўдзень і ўночы?!
Ой, Божа ж мой, Божа, вазьмі мае вочы!
Нашто ж тыя вушы, як не чуць нічога
Ні ад людцоў добрых, ні з неба ад Бога?..

## Удакладненыя вынікі перапісу

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведамляе, што паводле перапісу насельніцтва Беларусі 1999 г.:

-6986,9 тыс. (85,6%) беларусаў назвалі сваёй роднай мовай беларускую;

-3373,3 тыс. (41,3%) беларусаў паведамілі, што карыстаюцца беларускай мовай у паўсядзённым жыцці, з іх 1264,9 тыс. належаць да гарадскога насельніцтва.

Звесткі аб колькасці грамадзянаў, якія не валодаюць рускай або іншай мовай, пры перапісу насельніцтва не збіраліся.

***Намеснік Міністра Г.І Гасюк.***

*Па-за адказам намесніка міністра рэдакцыя мае інфармацыю, што на беларускай мове штодня размаўляюць 24 000 рускіх, 153 000 палякаў, 14 000 украінцаў, 1 131 літовец, 206 азербайджанцаў.*

## Ідзе перарэгістрацыя раённых структураў ТБМ

У апошнія месяцы паспяхова прайшлі складаную працэдуру рэгістрацыі наступныя арганізацыі ТБМ.

1. Пінская гарадская арганізацыя ТБМ – 29 кастрычніка 1999 г.
2. Баранавіцкая гарадская арганізацыя ТБМ – 5 снежня 1999 г.
3. Асіповіцкая раённая арганізацыя ТБМ – 24 лістапада 1999 г.
4. Глыбоцкая раённая арганізацыя ТБМ – 13 кастрычніка 1999 г.
5. Наваполацкая гарадская арганізацыя ТБМ
6. Шаркаўшчынская арганізацыя ТБМ – 24 лютага 2000 г.
7. Мозырская гарадская арганізацыя ТБМ – 24 лютага 2000 г.
8. Пружанская раённая арганізацыя ТБМ--23 лістапада 1999 года.
9. Віцебская абласная арганізацыя ТБМ -- 20 студзеня 2000 года
10. Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ -- 16 лютага 2000 года.

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*




**Прыходзь!**
**Будзь разам з намі!**

## Ёсць "Бацькаўшчына"




Пабачыў свет першы нумар бюлетэня "Бацькаўшчына".

Яго заснавальнікі, Шаркаўшчынская раённая арганізацыя ТБМ і культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча, адзін раз на месяц будуць знаёміць сваіх чытачоў з цікавымі і малавядомымі старонкамі гісторыі Шаркаўшчыны, яе багатай духоўнай і культурнай спадчынай, а таксама з людзьмі, якія сталіся гонарам гэтае зямлі.

Рэдакцыя "Нашага слова" віншуе сваіх калегаў, стваральнікаў "Бацькаўшчыны" і жадае поспехаў у іхняй асветніцкай дзейнасці.

## Выйшаў юбілейны канверт

Пачынаючы з гэтага тыдня ў аддзяленнях сувязі з'явіўся юбілейны канверт з выявай Францішка Багушэвіча. Наклад канверта 200 000. Канверт без маркі.

## Ліда: ёсць 3 тысячы

Працягваецца акцыя па збору подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт у Лідзе. На гэтым тыдні вызначылася Лідская СШ № 1 **(рускамоўная)**. Тут сабрана 350 подпісаў. Узначальвае акцыю дырэктар школы Курбачова Зоя Іванаўна. Кожны тыдзень у акцыю ўключаюцца 1-2 школы ці працоўныя калектывы. Збор подпісаў ідзе ў большасці вёсак Лідскага раёна. Там акцыяй кіруе старшыня Лідскай аб'яднанай арганізацыі ТБШ, дырэктар Бердаўскай сярэдняй школы Анатоль Крупа. За БНУ падпісалася 70 супрацоўнікаў Лідскага райвыканкама. Усяго за месяц у Лідзе сабрана **3062** подпісы.

## Аляксею Марачкіну -- 60

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" сардэчна віншуюць шаноўнага спадара Аляксея Марачкіна, нястомнага змагара за адраджэнне нашай славутай Бацькаўшчыны, вядомага беларускага мастака і выкладчыка з 60-годдзем.

З багатай творчай палітры юбіляра можна выдзеліць адзін і несумненна, галоўны аспект - гістарычны. Аляксей Марачкін намаляваў шмат партрэтаў нашых вядомых землякоў: Кірыла Тураўскі і Мікола Гусоўскі, Ефрасіння Полацкая і Рагнеда, Францішак Скарына і Кастусь Каліноўскі...



**На здымку:** Аляксей Марачкін і яго праца, прысвечаная Міколе Гусоўскаму. **Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**

## 21 сакавіка -- 160 гадоў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча



№ 11 (448) 15 САКАВІКА 2000 г. НАША СЛОВА

Праект

# КАНЦЭПЦЫЯ СТВАРЭННЯ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА УНІВЕРСІТЭТА (БНУ)

## З нашай гісторыі

Першымі цэнтрамі беларускай адукацыі сталі старажытныя гарады Беларусі Полацак і Тураў. Дзейнасць Еўфрасінні Полацкай ды Кірылы Тураўскага ўзняла Беларусь на ўзровень перадавых еўрапейскіх краінаў, паказала ўсяму свету, што ў цэнтры Еўропы пачала фармавацца новая этнічная і палітычная супольнасць. У 13 - 15 ст. ст. да вышэйзгаданых адукацыйных цэнтраў далучыліся Наваградак (разам з славутым Лаўрышэўскім манастыром), Вільня (новая беларуская сталіца) і Смаленск (найбуйны асяродак беларускага летапісання). У 15-16 ст.ст. беларусы навучаліся таксама ў еўрапейскіх універсітэтах і станавіліся навукоўцамі еўрапейскага ўзроўню.

У 16 стагоддзі ў Беларусі існавалі школы еўрапейскага ўзроўню адукацыі. У 1579 годзе ў Вільні быў адкрыты універсітэт пад назвай Акадэмія, дзе атрымоўвалі вышэйшую адукацыю юнакі з Беларусі. Спачатку універсітэт меў 3 факультэты. Студэнты ўсіх факультэтаў вывучалі беларускую мову. Ва ўніверсітэт прымаліся выхаванцы сярэдніх школаў Беларусі, дастаткова падрыхтаваныя да ўспрыняцця дысцыплінаў, што вывучаліся ва ўсёй Еўропе. У Беларусі ў 16 - 18 стагоддзях існавала шырокая сетка сярэдніх школ, сярод якіх асабліва вылучаліся іезуіцкія калегіі і піярскія вучылішчы. У канцы 18 стагоддзя ўва ўніверсітэце былі адчыненыя фізічны і медыцынскі факультэты. Свой унёсак у развіццё вышэйшае адукацыі Беларусі зрабіла полацкая іезуіцкая акадэмія, адчыненая ў 1812 годзе, а таксама Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Аднак царскі рэжым зачыніў усе гэтыя вышэйшыя навучальныя ўстановы з-за рэвалюцыйных поглядаў студэнтаў і часткі прафесуры.

Тым не менш традыцыі нацыянальнай вышэйшай адукацыі захаваліся. У 1918 годзе ў Менску быў адкрыты Педагагічны інстытут, а ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі прыняў рашэнне аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэту. І нарэшце ў 1921 годзе ў БССР пачаў сваю дзейнасць Беларускі дзяржаўны універсітэт, дзе распачалася падрыхтоўка нацыянальных навуковых ды педагагічных кадраў. Для жыхароў Заходняй Беларусі значную ролю адыграў таксама Пражскі ўніверсітэт, дзе мела магчымасць навучацца таленавітая беларуская моладзь.

Канец 20-х пачатак 30-х гадоў нашага стагоддзя былі адметныя тым, што пачаўся паспяхова пераход да выкладання ўсіх дысцыплін (якія вывучаліся ў ВНУ) на беларускай мове. Разам з гэтым выявілася надзвычайная актыўнасць педагогаў і навукоўцаў у выданні беларускамоўных падручнікаў. Аднак сталінскія рэпрэсіі канца 30-х гадоў цалкам разбурылі беларускую адметнасць вышэйшай школы. Пераважная большасць нацыянальна сведамых выкладчыкаў была рэпрэсавана. Працэс знішчэння нацыянальнай вышэйшай школы давершыла другая сусветная вайна. Дастаткова згадаць, што ў 50-70 г.г. 20 стагоддзя працэнт беларусаў сярод выкладчыкаў нашых ВНУ, асабліва сярод дацэнтаў і прафесараў, быў меншы за 50%. Таму беларуская мова фактычна была забароненая для ўжытку ў ВНУ, а яе носьбіты пераследваліся. Варта згадаць спробу беларускіх студэнтаў філфака БДУ дамагчыся выкладання па-беларуску некаторых дысцыплінаў і што з гэтага атрымалася. Больш чым на 50 гадоў было гвалтоўна спынена выкладанне ў ВНУ па-беларуску, не выдаваліся і беларускія падручнікі.

Працэс вяртання менавіта да <u>нацыянальнай</u> сістэмы вышэйшай адукацыі ўзнавіўся ў пачатку 90-х гадоў (пасля абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай). Нягледзячы на адсутнасць дзяржаўнай праграмы, ён пашыраўся і меў свае поспехі. Але ўсё зноў было скасавана, на гэты раз у выніку рэферэндуму 1995 года і змянення ўнутранай палітыкі Рэспублікі Беларусь.

## Сучасныя передумовы

Паводле перапісу насельніцтва 1999 года каля 81% грамадзян Беларусі назвалі сябе беларусамі па нацыянальнасці, а прыкладна 37% (амаль 4 млн. нашых суайчыннікаў!) у якасці мовы паўсядзённых зносін назвалі беларускую. Разам з гэтым каля трэці школьнікаў навучаюцца зараз менавіта ў беларускамоўных сярэдніх школах і класах.

У артыкуле 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пазначана: "Кожны мае права карыстацца роднай моваі, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання".

На жаль, гэты артыкул нашага Галоўнага закону не дзейнічае ў поўным аб'ёме, бо на Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе б усе студэнты навучаліся на роднай, а разам з тым і дзяржаўнай беларускай мове і дзе б вытрымліваўся адпаведны моўны рэжым. Тыя нешматлікія фармальныя беларускамоўныя плыні, што засталіся на некаторых гуманітарных факультэтах некалькіх ВНУ у разлік браць нельга, бо поўнае выкладанне па-беларуску ўсіх дысцыплін (асабліва замежных моў) там адсутнічае.

У сувязі з гэтым ТБМ імя Ф. Скарыны цягам апошніх трох гадоў патрабуе ад кіраўніцтва краіны адкрыцця ў Менску новага Беларускага Нацыянальнага універсітэту (далей БНУ), у якім усе дысцыпліны <u>без выключэння</u> выкладаліся б па-беларуску, а таксама на дзяржаўнай беларускай мове дзейнічала б уся сістэма справаводства (уключна з бухгалтэрыяй) з філіяламі ў тых вялікіх беларускіх гарадах, дзе жыве болей за 100 тыс. жыхароў і дзе адсутнічаюць іншыя ВНУ.

На сёння ТБМ мае каля 15 000 подпісаў грамадзян Беларусі ды іншых краін з патрабаваннем адкрыць на Беларусі вышэйзгаданую навучальную ўстанову, у якой усе дысцыпліны (у тым ліку і замежныя мовы) будуць выкладацца на дзяржаўнай беларускай мове. У нашай дзяржаве ёсць дастатковая колькасць дактароў і кандыдатаў навук, прафесараў і дацэнтаў, каб цалкам укамплектаваць усе факультэты БНУ высокапрафесійнымі, беларускамоўнымі кадрамі.

На жаль, звароты ТБМ да кіраўнікоў беларускай дзяржавы А. Лукашэнкі ды С. Лінга засталіся дасюль без адказу і таму было вырашана ўзнавіць збор подпісаў жыхароў нашае краіны з патрабаваннем адкрыцця БНУ. А напрыканцы мінулага году пры ТБМ была арганізаваная ініцыятыўная група па стварэнні БНУ.

У адпаведнасці з рашэннем лістападаўскай Рады ТБМ і з асабістымі пажаданнямі ў склад ініцыятыўнай групы зараз уваходзяць больш за 50 асобаў. Сярод іх акадэмікі Радзім Гарэцкі ды Сямён Шарэцкі, член-карэспандэнт НАН, былы прарэктар БДУ Станіслаў Шушкевіч, дактары навук ды прафесары Алесь Астроўскі, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Крукоўскі, Уладзімір Кулажанка, Алесь Краўцэвіч, Леанід Лыч, Адам Мальдзіс, Генадзь Цыхун, Генадзь Пятроўскі, вядомыя беларускія пісьменнікі Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Васіль Зуёнак, старшыня ТБШ Алесь Лозка, кіраўнік Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтру імя Ф. Скарыны Любоў Канаплянік, былы пасол Беларусі ў Германіі, дацэнт Пятро Садоўскі ды іншыя вядомыя на Беларусі выкладчыкі ВНУ з Менска, Горадні, Берасця, Віцебска ды Горак. Удзельнікі групы ўжо распрацавалі праект Статута БНУ.

## Прынцыпы стварэння БНУ і яго структура

Удзельнікі ініцыятыўнай групы выказаліся за стварэнне менавіта новай навучальнай ўстановы з улікам дэмакратычнага досведу лепшых універсітэтаў Еўропы ды ЗША, а таксама станоўчага досведу беларускіх ВНУ.

Беларуская мова, як мова выкладання і навучання, — прынцыповая сутнасць БНУ. Выкладчыкі ды студэнты свядома, без усялякага адміністрацыйнага прымусу выбіраюць беларускую мову навучання, як адну з самых буйных ды распрацаваных славянскіх моваў. Разам з гэтым высокая якасць падрыхтоўкі спецыялістаў застаецца асноўнай мэтай арганізацыі навучальнага працэсу.

Асаблівасцю БНУ з'яўляецца таксама і шырока апрабаваны ў свеце падыход да атрымання адукацыі, які грунтуецца на прынцыпах акадэмічнай свабоды. Мяркуецца, што будзе вызначана толькі пэўнае кола дысцыплін, якія ёсць абавязковыя. Разам з мінімумам прадметаў па канкрэтнай спецыяльнасці нам уяўляюцца абавязковымі для вывучэння адна з заходнееўрапейскіх моваў (англійская, французская, нямецкая і г.д.), а таксама адна з славянскіх моваў (польская, чэшская, балгарская, украінская, руская і г.д.).

Студэнты кожнага факультэта будуць вывучаць таксама шырокі курс беларусазнаўства і гісторыю сваёй асноўнай спецыяльнасці, якая павінна грунтавацца на мясцовых беларускіх і агульнаеўрапейскіх прыкладах. Сучасныя беларускія студэнты (хімікі, біёлагі ці фізікі) не ведаюць, як гэтыя навукі развіваліся на тэрыторыі Беларусі, не ведаюць і пра сваіх найбольш дасведчаных у вышэйзгаданых навуках землякоў. Уяўляецца неабходным скасаваць гэты значны для агульнай адукаванасці недахоп.

Плануецца, што абавязковыя дысцыпліны будуць вывучацца ў першай палове дня. Другая палова будзе адведзена для вывучэння свабодна выбраных студэнтамі дысцыплін. Тут магчымы больш паглыбленыя спецыяльныя курсы, вывучэнне другой заходнееўрапейскай мовы, латыні, гісторыі рэлігіі і г.д.

Падмуркам практычнай падрыхтоўкі студэнтаў БНУ з'яўляюцца НАН Беларусі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Нацыянальная бібліятэка, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальны архіў. БНУ мусіць шчыльна супрацоўнічаць з адзіным у Беларусі цалкам беларускамоўным гуманітарным ліцэем імя Якуба Коласа, лепшыя выхаванцы якога будуць аўтаматычна залічвацца ў шэрагі студэнтаў БНУ.

Рэктар БНУ абіраецца таемным галасаваннем Вучонай рады універсітэта. Ва універсітэце дзейнічаюць еўрапейскія нормы памеру працы для выкладчыкаў і 10-бальная сістэма адзнакі ведаў студэнтаў.

Папярэдне прыйшлі да згоды ў тым, што БНУ павінен складацца з наступных факультэтаў: юрыдычны, філасофскі, эканамічны, прыродазнаўчы, гісторыка-лінгвістычны, фізіка-матэматычны. Колькасць студэнтаў мусіць быць абмежаванаю да 3-3,5 тысячаў чалавек. Галоўная мэта універсітэту – падрыхтоўка кадраў для беларускай нацыянальнае эліты ў наступным стагоддзі. Мяркуецца, што выпускнікі БНУ павінны стаць кіраўнікамі ў розных сферах палітыкі, культуры, адукацыі ды гаспадаркі незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

**Юрыдычны факультэт** будзе мець аддзяленні міжнароднага, грамадзянскага ды адміністратыўнага права. Сярод прапанаваных кафедраў трэба вылучыць кафедру міжнароднага марскога і паветранага права, а таксама кафедру міжнароднага экалагічнага права.

**Філасофскі факультэт** папярэдне складаецца з двух аддзяленняў: культуралогіі і тэалогіі. Прычым аддзяленне тэалогіі можна размясціць у старажытным Пінску, дзе пашыраная дзейнасць розных канфесіяў і нават маецца адпаведны будынак былога іезуіцкага калегіюма 17 ст.

**Эканамічны факультэт** акрамя аддзялення банкаўска-фінансавай справы мусіць мець кафедру дэмаграфіі, бо, на жаль, Беларусь зараз мае адмоўнае сальда нараджальнасці.

**Прыродазнаўчы факультэт** утрымлівае два буйных аддзяленні: хіміка-біялагічнае і геолага-геаграфічнае. У перспектыве да іх далучыцца і экалагічнае з выхадам на чарнобыльскую праблему.

**На гісторыка-лінгвістычным факультэце** плануецца мець тры аддзяленні: гістарычнае, музейна-архіўнае і лінгвістычнае. Тут будуць рыхтавацца прафесійныя перакладчыкі, літаратурныя крытыкі і журналісты, рэдактары ды спецыялісты выдавецкай справы.

Сярод найважнейшых кафедраў трэба адзначыць кафедры вайсковай гісторыі Беларусі, гісторыі архітэктуры і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, а таксама кафедры балцкіх, славянскіх і ўсходніх моваў (арабская, кітайская, фарсі, турэцкая і японская мовы). Частка лінгвістычнага аддзялення з кафедраў балтыйскіх і славянскіх моваў можа месціцца ў Лідзе, горадзе, блізкім да Польшчы і Летувы.

**Фізіка-матэматычны факультэт** мае на мэце распрацоўваць розныя тэарэтычныя кірункі сучаснай навукі. Студэнты гэтага факультэту будуць праходзіць доўгатэрміновыя стажыроўкі ў лепшых універсітэтах Еўропы і ЗША, а таму мусяць вольна валодаць англійскай мовай.

Паколькі выкладаць дысцыпліны будуць высокакваліфікаваныя выкладчыкі, БНУ стане таксама навукова-метадычным цэнтрам падрыхтоўкі нацыянальных беларускамоўных падручнікаў для вышэйшай школы.

Прапануецца надаць БНУ **імя Францішка Багушэвіча**, вядомага беларускага пісьменніка, юрыста, публіцыста, чалавека, які ўпершыню слову "беларус" надаў палітычнае і нацыянальнае значэнне.

# Хроніка змагання




На пачатку 2000 года адбылася прэзентацыя двух унікальных выданняў, здзейсненых сябрамі Таварыства беларускай мовы. 26 студзеня пабачыла свет кніга "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Дакументы і матэрыялы 1989 – 1997 гг." Укладальнік Яўген Цумараў. Кніга выйшла ў Менску ў ГМФ "Трасцянец", наклад 500 асобнікаў, 112 старонак. Гэта зборнік найбольш актуальных з пазіцыі цяперашняга часу матэрыялаў і дакументаў пра дзейнасць у 1989 – 1997 гг. Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якое паўстала ў рэчышчы шырокага грамадскага руху на Бацькаўшчыне за адраджэнне беларускага слова, рашуча выступіла за ажыццяўленне сапраўды нацыянальнай моўнай палітыкі ў незалежнай Беларусі і паслядоўна дамагалася ўсебаковага забяспячэння дзяржаўнага статусу беларускай мовы. Выданне разлічана на даследчыкаў найноўшай гісторыі роднага краю, сяброў ТБМ імя Ф.Скарыны, усіх прыхільнікаў беларускага слова.

У кнізе матэрыялы з'ездаў, канферэнцый, іншых марапрыемстваў ТБМ, заканадаўчыя акты, склад рэспубліканскіх радаў. Гэта своеасаблівая хроніка дзейнасці ТБМ за першыя восем гадоў яго існавання.

Другая кніга: "Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы". Рэдакцыйная калегія: Святлана Багданкевіч, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Людміла Дзіцэвіч, Мікола Лавіцкі, Людміла Майсеня (старшыня рэдкалегіі), Леанарда Мухіна, Валеры Палецюк, Аляксей Саламонаў, Станіслаў Суднік, Алег Трусаў. Кніга выйшла ў Вільні ў выдавецтве "Gudas". Наклад 500 асобнікаў, 320 старонак. Гэтая кніга – крык душы беларускай інтэлігенцыі, параненай здзекам над нашай мовай. Тут факты, аналіз, хроніка, нададзеная ў сродках масавай інфармацыі. Сярод аўтараў кнігі адзін акадэмік НАН, 11 дактароў гістарычных, філалагічных, юрыдычных, тэхнічных, філасофскіх і медычных навук, 7 кандыдатаў навук, народныя пісьменнікі Беларусі, актывісты ТБМ і проста беларусы, у якіх душа баліць за стан роднай мовы.

Раздзелы кнігі: "У кантэксце гісторыі і палітыкі", "Лінгвістычны аспект", "Моўная дыскрымінацыя ў адукацыйнай сферы", "Апублікавана ў СМІ" падаюць поўны спектр моўных праблем беларускай нацыі ад даўніх часоў і ў перспектыву на некалькі дзесяцігоддзяў. Трагічная гісторыя беларускай мовы паказана з усіх бакоў пад усімі ракурсамі. Разам з тым гэта не зборнік песімізму і занядбання. З-пад усяго грузу трагізму і праблематыкі непахіснай скалой паўстае моц, веліч і несмяротнасць нашай мовы. Нутраны стрыжань кнігі – гэта цвёрдая вера ў вялікую прышласць і беларускай мовы, і беларускай нацыі.

Абедзве кніжкі можна знайсці ў сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 у Менску, у структурах ТБМ іншых гарадоў і раёнаў.

## У Беларускім відэаклубе

**на Румянцава, 13**

**18 сакавіка ў 18.00 -- Прэм'ера: мультфільм "Гісторыя цацак" (прэм'ерны кошт -- 100 руб)**

**25 сакавіка ў 18.00 -- "Адважнае сэрца" (100 руб)**

# Весткі з ТБМ імя Сымона Буднага

Пад гукі мелодыі паланэза "Развітанне з Радзімай" Агінскага, 20 лютага, гасцінна адчыніла дзверы вечарына, прысвечаная гадавіне стварэння ТБМ імя Сымона Буднага ў Клецкім раёне.

Вечарыну распачала радкамі верша аб мове Ніла Гілевіча старшыня ТБМ Князева Часлава, якая расказала аб стане мовы ў раёне. На імпрэзе прысутнічалі сябры ТБМ, настаўнікі, людзі, якія неабыякавы да лёсу мовы, і наогул да Беларусі. Гучалі вершы мясцовых паэтаў Худаўца, Наўчанковай, Мялешкі, вершы земляка-суседа з Нясвіжа Станіслава Судніка, славутага абаронцы мовы і лёсу Беларусі Ніла Гілевіча. Выконваліся песні мясцовага самадзейнага кампазітара Міхаіла Кашубы, на словы беларускіх паэтаў у выкананні настаўнікаў школы мастацтваў Валянціны Каліноўскай і Святланы Юлбарысавай. На вечарыне таксама гучалі віншаванні з нагоды дня нараджэння Уладзіміра Дамашэвіча. Наша Клеччына багатая на таленты. Незабытоўскі, Фялінская Ева, Томас Фальконіус-Сакалоўскі, Марцін з Клецка, Станіслаў з Клецка, які разам з Францішкам Скарынай абараняў доктарскія ступені ў Кракаве і Падуі, жыў з ім у адным інтэрнацкім пакоі, уладальнік Клецкай ардынацыі з роду Радзівілаў, знакаміты кампазітар, таленавіты Антоні Хенрык, Леанід Галубовіч, Міхась Ярош.

Мова – родная мова, ты як маці. Якія б віхуры ні бушавалі вакол нас, дзе б ні даводзілася бываць, што б ні траплялася на нашым шляху, але маці – матуля – мама – яна заўсёды адна, заўсёды з намі, - так і наша мілагучная цудоўная мова.

А калі забываем, то страчваем сябе, Радзіму і не ведаем, хто ж мы такія, становімся абыякавыя да гісторыі, яе будучыні.

Але ж мы Беларусы і з намі не павінна гэта здарыцца. Не, не павінна заблудзіцца мова ў чыноўніцкіх калідорах. Не. Яна знойдзе выйсце.

Дык скажам словамі Францішка Багушэвіча "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі".

*Анжэжка, сябар ТБМ.*

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ**
**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ**

Каб спыніць дыскрымінацыю карэннага этнасу, патрабуем забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску.

Для гэтага патрабуем стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта

| № | Прозвішча, імя , імя па бацьку | Адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

# З ВЫЯВАЮ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

Усё мае сваю гісторыю, усё патрабуе свайго асэнсавання. Гэтага асэнсавання патрабуюць і паштоўкі з выяваю Багушэвіча па матывах ягоных твораў. Іх выдадзена не шмат. Усяго шэсць. Першая з іх выйшла ў 1906 годзе. За аснову паштоўкі – іх тады называлі пісулькамі, паштовымі пісулькамі – стваральнікі ўзялі Багушэвічаву фотакартку пачатку дзевяностых гадоў – тую, да якой мы прызвычаіліся: на ёй Багушэвіч у крамным пільчаку, з доўгімі раскідзістымі вусамі, з кароткай стрыжанай барodкай, пры шырокім, у клетачку гальштуку.

Першая паштоўка, прысвечаная Багушэвічу, мела моўнаграфічнае афармленне. Яно было такое: "Прантишэк Богушэвич. Песняр Беларуски. Написаў "Дудку Беларускую" пад прозвишчэм Мацея Бурачка и "Смык Беларуски" пад прозвішчам Шымона Рэўкі спад Барысава".



З такой жа выявай і такім жа тэкстам была паралельна выдадзена ў 1906 годзе і паштоўка з лацінскай графікай. Цяпер няцяжка здагадацца, адкуль у беларускі надпіс кірыліцай уварваліся нязвыклыя для беларускага правапісу літары і спалучэнні. І усё ж гэта беларуская паштоўка. Першую паштоўку з Багушэвічаваю выяваю выдала пяцярбургская суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца". У тым жа 1906 годзе гэтай суполкай была выдадзена паштоўка і паводле матываў Багушэвічавай творчасці. Называлася яна "Парабкова дворная хата". Змест яе склаў фотаздымак якойсьці развалюхі: ні то хаты, ні то хлява з Лідскага павета і страфы з верша "Не цурайся", надрукаванай адначасова лацінкаю і кірыліцай:

А кинь вокам на хату маю:
И цячэ и hние и крывая,
И у сярэдзини hной и станць на hнаю,
И дзицлюся я самъ, як трывае.

Гэтая паштоўка ў свой час вельмі ўразіла Якуба Коласа. Калі ён у 1907 годзе апісаў Мікалаеўскую школу, то, каб малюнак яе паўстаў перад чытачамі ў больш выразнай выяве, Колас скіраваў іх увагу менавіта да гэтай паштоўкі. Вось як ён пра гэта пісаў у "Нашай Ніве": "Калі каму з вас, саколікі, здарыцца, быць у нашых закавулках, то не пашкадуйце патраціць колькі часу і зайдзіце палюбавацца на нашу школу...

Усякі раз, як я зірну на гэтую школу, то ўспомню беларускую паштовую адкрытку "Парабкова дваровая хата" і верш М. Бурачка.



A kiń wokam na chatu maju:
I cieczè i hnije i krywaja,
I u siaredzini hnoj i staić na hnaju
I dziŭluju ja sam, jak trywaje
(Maciej Buraczok „Nie curajsia")

А кинь вокам на хату маю:
И цячэ и hние и крывая,
И у сярэдзини hной и станць на hнаю
И дзицлюся я самъ, як трывае
Мацей Бурачок „Не цурайся"

Першыя беларускія паштоўкі, прысвечаныя Ф.Багушэвічу, мелі не толькі практычнае значэнне, паштовае, яны яшчэ, апрача ўсяго іншага, як і сама літаратура, публіцыстыка, неслі на сабе сацыяльны цяжар, сацыяльную місію. Разам з літаратурай распавядалі свайму народу пра яго самога, пра яго песняроў, варушылі прыспаную думку селяніна, будзілі нацыянальную свядомасць.

Такімі меркаваннямі кіраваліся выдаўцы паштовак у часы Заходняй Беларусі з выяваю Ф.Багушэвіча. З гэтай пары іх да нас дайшло дзве. На адной паўтораны партрэт з вядомай нам фатаграфіі з тэкстам унізе: "Францішак Багушэвіч /1840 – 1900/. Пачынальнік навейшай беларускай літаратуры, аўтар бяссьмяротнай "Дудкі Беларускай" і "Смыка Беларускага".



На другой паштоўцы з заходнебеларускіх часоў Багушэвічава выява ўжо змалявана, але ўсё з той жа фатаграфіі; якая была скарыстана і для папярэдніх паштовак. Паштоўка гэтая таксама з тэкстам. Спачатку пад партрэтам подпіс "Францішак Багушэвіч", а затым – эпіграфам – агністыя словы з "Прадмовы" да "Дудкі Беларускай": "...Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі".

Гэтая паштоўка існуе ў двух танавых колерах: адна – светла-карычневая, на глянцавай паперы; другая – на цёмна-карычневай, амаль бурачковай, больш шурпатай. Розняцца яны між сабою яшчэ і афармленнем адваротнага боку. На светла-карычневай паштоўцы з Багушэвічавай выявай на адвароце зверху вялікімі літарамі



праз усю картку ў разрадку карычневай фарбай выпісана: "KARTKA POCZTOWA", крыху ніжэй і меншымі літарамі пад словам "kartka", яшчэ два словы: "Adres wysyłającego" і дзве невялікія лініі з даволі ладным чыстым акенцам. Затым вертыкальнай лініяй ад канца слова "Wysyłającego" адбіта месца чатырма пункцірнымі лініямі. Адваротны бок цёмна-карычневай паштоўкі з Багушэвічавай выявай аздоблены зусім інакш. Па-першае, надпіс зроблены парускy і зусім іншымі шрыфтам, іншай фарбай (чырвонай). У правым ражку гэтай паштоўкі ёсць рамачка для маркі з адпаведнымі тлумачальнымі словамі: "мъсто для марки". Пад надпісам "Почтовая карточка" тлустая чырвоная лінія, а за ёй, праз усю паштоўку, пункцірныя лініі для пісьма, для тэксту. Гэтая паштоўка выйшла ў выдавецтве Фр. Аляхновіча. Выдавецтва гэтае існавала на пачатку дваццатых гадоў. Вельмі магчыма, што паштоўка з светла-карычневай і цёмна-карычневай – гэта розныя выданні і розных гадоў. Прызначаліся яны, як бачым, для пашырэння не толькі сярод беларускага народа, але польскага і рускага грамадзянства, каб пазнаёміць іх з абліччам беларускага песняра, Бацькам беларускага адраджэння і з яго зваротам да беларускага народа.

Маем мы яшчэ адну паштоўку з бяссмяротным Багушэвічавым заклікам: "Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...". Выяўленчы вобраз гэтай паштоўкі такі... Пасярэдзіне круг. Праз яго левую частку праходзіць дрэўка з бел-чырвона-белым сцягам. Дрэўка вянчае старадаўні беларускі герб, а ўнізе згаданыя



словы Францішка Багушэвіча з подпісам "Мацей Бурачок". Надпісы на адвароце аж на шасці мовах: беларускай, літоўскай, нямецкай, французскай, яўрэйскай, польскай. Гэтая паштоўка была выдадзена ковенскім Таварыствам імя Скарыны праз клопат Урада БНР. Друкаваў яе на каменю нехта Марголін. На паштоўцы значыцца і месца друку: "Коўна, вул. Гродзенская". Між іншым, на адвароце першай паштоўкі з Багушэвічавай выявай таксама надпісы былі зроблены на некалькіх мовах. Прынамсі – на беларускай мове, лацінкай і кірыліцай, літоўскай, польскай і рускай.

У наш час была выдадзена толькі адна паштоўка, прысвечаная Багушэвічу. Аўтарам яе быў Янка Раманоўскі. Год выдання 1963. Была яна маляваная. Гэта адзіная паштоўка, прысвечаная Багушэвічу, што выйшла ў Савецкай Беларусі за ўсе гады існавання БССР.

Паштоўка з выяваю Ф.Багушэвіча ёсць у некаторых нашых бібліятэках: прыкладам, у фундаментальнай бібліятэцы імя Якуба Коласа, у аддзеле рэдкай кнігі цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Літоўскай ССР, у Літаратурным музеі Янкі Купалы, у Гудзевіцкім школьным музеі, у некаторых прыватных архівах і калекцыях – В. Целеша (г.Рыга), А.Мальдзіса. Два арыгіналы паштовак з Багушэвічавай выявай мае і аўтар гэтых нататак. Адна паштоўка захавалася ў варшаўскіх зборах Аляксандра Ельскага. Кожная паштоўка з гэтых калекцый мае сваю гісторыю, сваю долю, свой лёс...



ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

(Заканчэнне на старонцы 6)

# Давайце спяваць па-беларуску

## Над сваёй Айчызнай

Верш Янкі Купалы Музыка Пятра Русава







Божа! Гэткі свет тут моц стварыла твая!
Дзе ж мой дом, дзе мой люд? Дзе айчызна мая?
Дзе той час, у якому тут кіпела жыццё? }
Свой народ быў кругом і любіў сваё ўсё? } – *2 разы*

Сваю песню ў лад свой не стыдайся запець,
І сярмяжкі сівой не стыдайся надзець!
Весяліўся народ, аж грымела сяло! }
Ва ўсіх светлы пагляд, ва ўсіх шчасце цвіло.} – *2 разы*

А цяпер, а цяпер не відаць ясных зор,
Хоць сабе сам не вер, - знікла ўсё, як віхор!
Знікла ўсё, як імгла, няма словы таей; }
Злая доля змагла і мой край, і людзей! }– *2 разы*

Адны ў шар курганы – сведкі бітваў – стаяць;
Косці к ім груганы прылятаюць збіраць.
Прашмыгаюць вужы, канюк моліцца "піць", }
Воўк прабег па мяжы, далей спіць усё, спіць! }– *2 разы.*

# Мова павінна быць з кулакамі

## Вяртаючыся да надрукаванага.

У адным з апошніх нумароў "Нашага слова" быў надрукаваны матэрыял, прысвечаны турніру па кікбоксінгу, які правяла ў Жодзіна мясцовая суполка ТБМ.

Свой водгук на яго нам даслалі дзяўчаты-філолагі, студэнткі ГДУ. Шкада, што яны не напісалі свае прозвішчы, а толькі імёны.

Мы цалкам друкуем гэты ліст, а таксама некалькі фотаздымкаў з вышэйзгаданага турніра, на якіх бачна сімволіка ТБМ.

*Рэдакцыя.*

### Прывітанне дарагая рэдакцыя "Нашага слова"!

Пішуць вам студэнткі беларускага філалогіі з Гарадзенскага універсітэта. Не здолелі стрымацца, каб не павітаць такую акцыю, як турнір па кікбоксінгу, які адбыўся 30 студзеня 2000 г. у Жодзіна пад патранажам ТБМ (гл."Наша слова", № 8 за 23 лютага 2000 г.).

Але мы асабліва хочам падтрымаць думку вашага аўтара Алеся Гурыновіча, які ў артыкуле "Турнір па кікбоксінгу" піша: "Мова павінна быць з кулакамі". Мы – за!!!

"За" па той прычыне, што многія з нас, студэнтак беларускай філалогіі (ды і нешматлікіх хлопцаў), не раз фізічна пацярпелі за нашу пакутніцу – мову. Так, у верасні 1999 г. адну з нашых дзяўчат 40-гадовы мужчына ўдарыў у аўтобусе пад дых локцем так, што тая ледзь не сканала, і гэта за тое, што яна па-беларуску спытала, ці выходзіць ён на гэтым прыпынку. Дарэчы публіка быццам не звярнула на гэта ўвагу. Яшчэ адной дзяўчыне, якая жыла на кватэры ў раёне Фолюш г.Горадня (раён для вайскоўцаў) дзеткі прыезжых з Расеі прапараў і афіцэраў за беларускую мову пагражалі збіць і згвалтаваць, і гэта не было падобна на жарт. А колькі было выпадкаў абраз. Год таму на нашых вачах жанчына, як яна сказала "масквічка паводле нараджэння" у тралейбусе гатова была выдрапаць ад злосці вочы мужчыне, які загаварыў да кагосьці па-беларуску, і мы за яго заступіліся. Хаця, канешне, за беларускую мову нармальныя людзі і дзякавалі, ім гэта падабалася.

Дарагая рэдакцыя!

Мы хочам, каб хаця б вы пачулі наш голас. Мы, беларускі, на сваёй радзіме стаміліся баяцца за сваю бяспеку, бо нас могуць збіць за нашу родную беларускую мову. Мове патрэбны дужыя абаронцы і жалезныя кулакі. Толькі жалезныя. Надакучыла цярпець абразы і баяцца гаварыць па-беларуску. Спадзяемся, вы нас зразумееце.

Дзякуй.

*Алена, Наталля, Алеся і іншыя студэнткі аддзялення беларускай і славянскай філалогіі філфака Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы.*



## Дзякуй, дзяўчаты

Дзякуй, дзяўчаты, што вы адгукнуліся на артыкул "Турнір па кікбоксінгу". Ваш ліст паказвае актуальнасць дадзенай праблемы, таму вырашыў выказаць думкі на гэты конт.

Зразумела, выдатна, што Жодзінскія ТБМ-аўцы "Ліцьвіны" арганізавалі свой клуб адзінаборстваў і правялі Міжрэгіянальны турнір па кікбоксінгу. Дарэчы, гэта рыса, напэўна, уласціва многім маладзёвым клубам. Калі я быў сябрам раней існаваўшага маладзёвага аб'яднання "Выбранецкія шыхты", то нашы хлопцы рэгулярна наведвалі трэніроўкі па каратэ.

Але для сяброў таварыства, якія не аб'яднаны ў маладзёвых спартовых арганізацыях, добра было б абавязкова знаходзіць некалькі гадзін на тыдзень для наведвання трэніровак па адзінаборствах ці хаця б залы атлетычнай гімнастыкі.

Да прыкладаў, якія ўзгадалі дзяўчаты, аднойчы чуў пра выпадак на свяце горада ў Менску, калі некалькі РНЕ-шнікаў наяздкалі на студэнта з дзяўчынаю за тое, што яны размаўлялі паміж сабою па- беларуску. Мяркую, у іх не ўзнікла б такога жадання, калі б яны адчувалі, што хлопец можа добра пастаяць за сябе і дзяўчыну фізічна.

У наш час добра валодаць кулакамі патрэбна не менш, чым ведаць замежныя мовы, вадзіць машыну, умець працаваць з кампутарам.

Я лічу, калі ты не інвалід і маеш прэтэнзію называцца мужчынам, то абавязан умець пастаяць за сябе і дзяўчыну. Калі ж не, то павінен гэтаму вучыцца. Зразумела, што ўпэўненасць у сабе прыйдзе не адразу, але праз год-два рэгулярных трэніровак ты станеш іншым чалавекам, што зразумела, разам з тваім інтэлектам у лепшы бок будзе мяняць і стаўленне да мовы, на якой ты размаўляеш.

*Алесь Гурыновіч.*



**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 03. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 693
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 134 руб., 3 мес.- 402 руб.
*Кошт у розніцу:* 30 руб.